быў закладзены шэраг істотных супярэчнасцей, якія спараджалі складаныя для вырашэння праблемы. Галоўнымі недахопамі з'яўлялася залежнасць ад выканаўчай улады, а таксама непісьменнасць суддзяў, адсутнасць матэрыяльнага іх узнагароджання. Але ў цэлым валасныя суды выконвалі свае задачы і на падставе нормаў існаваўшага звычаёвага права, традыцыйных уяўленняў беларускіх сялян пра справядлівасць вырашалі шматлікія канфлікты і развязвалі спрэчныя сітуацыі ў жыцці паслярэформеннай вёскі.

### БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС


1. *Талмачова С. А.* Сялянскае самакіраванне ў Беларусі (1861–1901 гг.) : аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук : 07.00.02. Мінск, 2002.
2. *Талмачова С. А.* Эвалюцыя дзейнасці органаў сялянскага самакіравання. Гісторыя Беларусі перыяду капіталізму : вучэб. дапам. : у 5 ч. Ч. 2. Актуальныя праблемы аграрнай гісторыі / склад. А. П. Жытко [і інш.] ; пад агул. рэд. А. П. Жытко. Мінск, 2007. С. 5–110.
3. *Маскевіч Г. І.* Сацыяльная арганізацыя сельскай грамады Беларусі ў 60–90-я гг. XIX ст. // Весн. БДУ. Сер. 3, Гісторыя. Эканоміка. Права. 2008. № 2. С. 13–18.
4. *Богданович А.* Мои воспоминания // Неман. 1984. № 6. С. 38–89.
5. Нацыянальны гістарычны архіў Літвы (НГАЛ). Ф. 378. Воп. 1869 а/а. Спр. 1110.
6. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 242. Воп. 1. Спр. 1034.
7. НГАЛ. Ф. 378. Воп. 1882 а/а. Спр. 611.
8. Крестьянское дело в Гродненской губернии. Свод заключений по вопросам рассмотренным Совещанием Предводителей Дворянства и Мировых Посредников в 1899 году. Гродна, 1900.
9. Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст. : у 2 кн. / А. А. Каваленя [і інш.]. Мінск, 2011. Кн. 1.
10. Обзор Витебской губернии за 1888 г. Витебск, 1888.
11. Памятная книжка Могилевской губернии на 1890 г. Могилев на Днепре, 1890. С. 183.
12. Обзор Могилевской губернии за 1899 г. Могилев, 1900.
13. Обзор Могилевской губернии за 1900 г. Могилев, 1901.
14. Обзор Витебской губернии за 1899 г. Витебск, 1900.
15. Обзор Виленской губернии за 1889 г. Вильна, 1889.
16. Обзор Виленской губернии за 1897 г. Вильна, 1898.
17. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (НГАБ у Гродне). Ф. 10. Воп. 1. Спр. 2796.
18. НГАБ у Гродне. Ф. 10. Воп. 13. Спр. 795.
19. НГАБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 2611.
20. НГАЛ. Ф. 378. Воп. 1891 а/а. Спр. 392. Арк. 61.
21. Труды местных комитетов о нуждах сельскохозяйственной промышленности. Т. IV. Виленская губерния. СПб., 1903.
22. НГАБ у Гродне. Ф. 18. Воп. 1. Спр. 80.
23. НГАБ у Гродне. Ф. 10. Воп. 1. Спр. 259.
24. Обзор Могилевской губернии за 1900 г. Могилев, 1900.
25. Обзор Виленской губернии за 1912 г. Вильна, 1912.
26. Обзор Минской губернии за 1913 г. Минск, 1914.
27. Обзор Могилевской губернии за 1913 г. Могилев, 1914.
28. Обзор Витебской губернии за 1914 г. Витебск, 1915.


Паступіў у рэдакцыю 21.01.2015.

***Сяргей Міхайлавіч Токць*** – кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

*УДК 947,6(1914-1918)*

*В. В. ВОЛКАВА*

## КРЫНІЦЫ ПА ГІСТОРЫІ НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ БЕЛАРУСІ ПЕРЫЯДУ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ Ў ФОНДАХ АРХІВАЎ І БІБЛІЯТЭК ГЕРМАНІІ

Рассматриваются письменные источники по истории немецкой оккупации Беларуси в годы Первой мировой войны, систематизированные в соответствии с региональными и проблемными принципами. Анализируются четыре группы источников: законодательные и делопроизводственные (организационно-распорядительная, информационно-справочная и отчетная документация) документы, документы личного происхождения и периодические издания. Изучены материалы из следующих архивов и библиотек Германии: Политического архива Министерства иностранных дел Германии, Федерального архива в Берлине, Тайного государственного архива прусского культурного наследия, двух филиалов Федерального архива земли Баден-Вюртемберг: Генерального федерального архива Карлсруэ и Главного государственного архива Штутгарта, а также Берлинской государственной библиотеки прусского культурного наследия и Библиотеки Берлинского университета имени Гумбольдта.

***Ключевые слова:*** Первая мировая война; немецкая оккупация; архивы и библиотеки Германии; экономическое положение; военные администрации Литва и Белосток – Гродно.

The article systematizes written sources for the history of the German occupation of Belarus during World War I based on regional and case approaches. Four groups of the sources were analysed: legislative and administrative documents (organizational, information, and reporting documentation), personal documents and periodicals. These include materials from the following German archives and libraries: Political Archive of the Federal Foreign Office (Auswärtiges Amt Politisches Archiv), Federal Archives (Bundesarchiv in Berlin-Lichterfelde), Prussian Privy State Archives (Geheimes Staatsarchiv Preußischer Kulturbesitz), two departments of the State Archive Baden-Württemberg (Landesarchiv Baden-Württemberg) – Central State Archives of Karlsruhe (Generallandesarchiv Karlsruhe) and Central State Archives of Stuttgart (Hauptstaatsarchiv Stuttgart), Berlin State Library – Prussian Cultural Heritage (Staatsbibliothek zu Berlin – Preußischer Kulturbesitz), Humboldt University Library (Universitätsbibliothek der Humboldt-Universität zu Berlin).

***Key words:*** World War I; German occupation; archives and libraries of Germany; economic situation; military administrations Litauen and Białystok – Grodno.





Падзеі, што храналагічна прыпадаюць на Першую сусветную вайну, вывучаюцца ў сучаснай беларускай гістарычнай навуцы даволі актыўна і ўсё больш прыцягваюць увагу гісторыкаў. Нягледзячы на пэўныя поспехі даследавання гэтага перыяду, нямецкая акупацыя беларускіх тэрыторый вывучана ў значна меншай ступені. Дакументы, якія непасрэдна звязаны з падзеямі на акупаванай нямецкімі войскамі тэрыторыі Беларусі, а таксама з баявымі дзеяннямі на франтах Першай сусветнай вайны, у фондах беларускіх архіваў практычна адсутнічаюць. Матэрыялы, якія там знаходзяцца, звязаны ў асноўным з дзейнасцю тылавых устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў і захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, дакументы з 1917 г. – у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь [1]. Таму для беларускіх даследчыкаў становіцца актуальным звярнуць сваю ўвагу на архівасховішчы і бібліятэкі суседніх краін. У сувязі з гэтым высокую каштоўнасць прадстаўляюць архіўныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў Германіі. Адзначым, што ўвага будзе засяроджана ў першую чаргу на крыніцах па гісторыі нямецкай акупацыі.

Крыніцы можна класіфікаваць згодна з агульнапрынятым падзелам у залежнасці ад метаду падачы інфармацыі на дакументальныя і апавядальныя. Дакументальныя крыніцы варта падзяліць на 2 групы: 1) заканадаўчыя крыніцы; 2) матэрыялы справаводства. Апавядальныя крыніцы – гэта дакументы асабістага паходжання (публіцыстычныя творы і мемуары, дзённікі). Асобна выдзелім перыядычны друк і графічныя матэрыялы.

**Заканадаўчыя крыніцы.** Заканадаўчыя акты, прынятыя нямецкай адміністрацыяй, мелі вышэйшую юрыдычную сілу на акупаваных тэрыторыях. На частцы занятых нямецкімі арміямі землях было створана вайсковае адміністрацыйнае ведамства Обер Ост (*Oberbefehlshaber Ost*, *Ober Ost*). У склад нямецкай зоны Обер Ост увайшла тэрыторыя Віленскага, Ашмянскага, Лідскага, Свянцянскага, часткі Вілейскага і Дзісненскага, Дзвінскага паветаў Віленскай губерні, Гродзенскі, Ваўкавыскі паветы Гродзенскай губерні [2]. Астатнія заходнебеларускія тэрыторыі з гарадамі Ашмяны, Навагрудак, Слонім, Баранавічы, Пружаны, Кобрын, Брэст, Пінск знаходзіліся пад юрысдыкцыяй тылавых упраў 9, 10 і 12-й нямецкіх армій і часткова ў аперацыйнай паласе нямецка-расійскага фронту. Новае заканадаўства рэгламентавала дзейнасць нямецкай адміністрацыі, устанаўлівала нормы жыцця насельніцтва ў эканамічнай, гаспадарчай, культурнай, рэлігійнай і іншых сферах. У першую чаргу для беларускіх тэрыторый, якія ўваходзілі ў склад зоны Обер Ост, гэта распараджэнні і пастановы адміністрацыйнага і ваеннага штабоў у Коўне, загады галоўнакамандуючага на Усходзе, шэфаў ваенных упраўленняў Обер Ост, пастановы выканаўчых органаў акупацыйнай адміністрацыі.

Асноўнай крыніцай для даследавання нямецкай палітыкі на тэрыторыі Беларусі гэтага перыяду з'яўляюцца афіцыйныя заканадаўчыя лісткі Обер Ост (*Befehls- und Verordnungsblatt des Oberbefehlshabers Ost*) [3]. Першапачаткова для кожнай адміністрацыйнай адзінкі распараджэнні выдаваліся на некалькіх мовах. Для ўпраўлення Літвы выдаваўся нямецка-польскі заканадаўчы лісток [4], для Сувалак – нямецка-літоўска-польскі [5], для Курляндыі – нямецка-латышскі [6], для Вільні – нямецка-польска-літоўскі [7], для Беластока – нямецка-польскі, для Гродна – нямецка-польска-літоўскі. Да сярэдзіны 1916 г. заканадаўства было ўніфікавана і асобныя заканадаўчыя лісткі для кожнай акругі перасталі выходзіць: для Літвы – з 30 чэрвеня 1916 г., для Вільні – з 11 ліпеня 1916 г. Такім чынам, выданне стала выходзіць толькі на нямецкай мове. Першы нумар выйшаў 1 снежня 1915 г., апошні, 120-ы нумар, – 26 лістапада 1918 г.

У афіцыйных лістках сабраны абавязковыя распараджэнні адносна арганізацыі судоў, паліцыі і жандармерыі, транспартнай, мытнай, грашовай і падатковай сістэмы, парадку гандлю і ўстанаўлення манаполіі на продаж спіртных напояў і тытуню; правіл перамяшчэння насельніцтва ў межах ваенных акруг і абавязковай пашпартызацыі; паштовай і тэлеграфнай сувязі, прэсы. Заканадаўча рэгламентавалася медыцынская дзейнасць. Акрамя таго, дзякуючы афіцыйным лісткам можна прасачыць прававы і тэрытарыяльны аспекты змен адміністрацыйнага падзелу нямецкай акупацыйнай зоны Обер Ост на працягу 1915–1918 гг.

Да заканадаўчых крыніц таксама адносяцца шматлікія пастановы і распараджэнні шэфаў асобных ваенных упраўленняў, якія мелі юрыдычную сілу толькі ў межах вызначанай адміністрацыйнай адзінкі.

**Дакументы справаводства.** Базу крыніц складаюць матэрыялы афіцыйнага справаводства, сярод якіх вылучаюцца наступныя групы: 1) справаздачная дакументацыя, куды ўваходзяць справаздачы, даклады, дакладныя запіскі; 2) арганізацыйна-распарадчая дакументацыя; 3) інфармацыйна-даведачная інфармацыя; 4) перапіска, што складалася з розных формаў: перапіска вышэйшых органаў з падпарадкаванымі ім установамі (розных міністэрстваў Германіі з кіраўніцтвам Обер Ост, Галоўнага ўпраўлення ў Коўне з кіраўнікамі акруг і паветаў), паміж нямецкай адміністрацыяй і палітычнымі і грамадскімі групамі.

Справаздачная дакументацыя з'яўляецца найбольш маштабнай і інфармацыйна насычанай групай крыніц. Сярод іх вылучаюцца справаздачы начальнікаў ваенных упраўленняў акупацыйнай зоны Обер Ост і нямецкіх армій. Дадзеныя справаздачы захоўваюцца ў фондах «Міністэрства сельскай гаспадаркі, зямельнай уласнасці і лясоў», «Гістарычны архіў Кёнігсберга» Таемнага дзяржаўнага архіва прускай культурнай спадчыны; фондзе «Імперскае міністэрства эканомікі» Федэральнага архіва ў Берліне, а таксама ў Берлінскай дзяржаўнай бібліятэцы. Справаздачы начальнікаў ваенных упраўленняў Гродна [8],

Беласток [9], Беласток – Гродна [10], Вільня [11], Літва – Поўдзень з сядзібай у Беластоку [12], у склад якіх на працягу нямецкай акупацыі ўваходзілі беларускія тэрыторыі. Таксама да гэтай групы адносяцца справаздачы кіраўнікоў тылавых упраў 9-й і 12-й нямецкіх армій [13]. Асобна вылучаюцца аналагічныя па структуры і змесце справаздачы адносна беларускіх тэрыторый, якія не ўваходзілі ў склад Обер Ост. Сярод іх – справаздачы тылавой управы Буг (*Etappen-Inspektion Bug*) [14], армейскай групы Войрша (*Armee-Abteilung Woyrsch*) [15].

Дзякуючы інфармацыі з гэтых справаздач можна вызначыць структуру і практычна поўнасцю ўстанавіць персанальны склад апарату нямецкай адміністрацыі ў ваенных упраўленнях і паветах за ўвесь перыяд нямецкай акупацыі Беларусі. Структура справаздач была ўніфікавана і вызначалася згодна з кірункам нямецкай палітыкі. У іх выдзяляліся наступныя раздзелы: 1) адміністрацыя (арганізацыя, заканадаўства); 2) насельніцтва; 3) транспартная палітыка (правілы перамяшчэння, шляхі зносін і масты, рачны транспарт, чыгунка, паштовая сувязь і тэлеграф); 4) упарадкаванне тэрыторый і гарадоў; 5) гаспадарка (адміністрацыйны сектар і арганізацыя гаспадаркі, забеспячэнне прадуктамі, працоўныя адносіны). Акрамя таго, асобныя раздзелы прысвячаліся характарыстыцы лясной гаспадаркі, гандлю, грашовым і крэдытным адносінам, рэквізіцыям і інш. Вельмі важнымі з’яўляюцца дадаткі да справаздач з табліцамі наконт арганізацыі адміністрацыі, а таксама статыстычнымі дадзенымі рэалізуемых эканамічных мерапрыемстваў: аб колькасці ўвозу і вывазу прадуктаў і тавараў, металаў і лесу; колькасці жывёлы ва ўпраўленні. Справаздачы падаваліся ў Галоўнае ўпраўленне Обер Ост у Коўне кожныя тры месяцы.

Такім чынам, справаздачы дазваляюць даследаваць розныя аспекты сацыяльна-эканамічнага становішча акупаванага рэгіёна. Каштоўнасць гэтых крыніц заключаецца ў іх перыядычнасці, што дае магчымасць прасачыць працэс станаўлення акупацыйнага рэжыму на працягу 1915–1918 гг. На жаль, поўны камплект справаздач усіх ваенных акруг, у склад якіх уваходзілі беларускія тэрыторыі, пакуль не выяўлены.

Што датычыць справаздачы па нацыянальным пытанні і статыстыцы насельніцтва, то ў фондзе «Міністэрства ўнутраных спраў» Таемнага дзяржаўнага архіва прускай культурнай спадчыны захоўваецца справаздача аб нацыянальных адносінах і нямецкай палітыцы ў зоне Обер Ост (26.03.1917). У дакуменце падаваўся агляд дэмаграфічнай статыстыкі (колькасць, шчыльнасць насельніцтва), аналіз нацыянальных узаемадачыненняў. Прапаноўваліся палітычныя развагі пра будучыню занятых тэрыторый: межы, дзяржаўную мову (нямецкая – як адзіная для немцаў, латышоў і літоўцаў, палякаў, яўрэяў і беларусаў) новага ўтварэння – зоны Обер Ост. У дадатку захоўваецца карта размяшчэння насельніцтва па нацыянальнай прымеце [16]. У фондзе «Таемны цывільны кабінет» захоўваецца справаздача аб колькасці насельніцтва нямецкага паходжання ў зоне Обер Ост [17].

У Палітычным архіве Міністэрства замежных спраў (МЗС) Германіі ў фондзе «Упраўленне занятымі тэрыторыямі Расіі» захоўваюцца статыстычныя матэрыялы аб дэмаграфіі, яны заснаваны на перапісе сакавіка 1916 г. У падрыхтаванай справаздачы былі выдзелены наступныя крытэрыі: агульная колькасць і шчыльнасць насельніцтва ў населеных пунктах, дыферэнцыяцыя па ўзросце, нацыянальнасці і веравызнанні [18]. Фонд «Будучыня занятых тэрыторый астатняй часткі Расіі» ўтрымлівае матэрыялы, падрыхтаваныя рэдакцыяй часопіса «Польскія лісткі» («Polnische Blätter») у маі 1916 г., аб статыстыцы насельніцтва [19].

Справаздачы па эканамічных пытаннях утрымліваюць шмат важных звестак адносна нямецкай палітыкі і механізмаў правядзення эканамічных мерапрыемстваў на акупаваных тэрыторыях. У фондзе «Міністэрства сельскай гаспадаркі, зямельнай уласнасці і лясоў» Таемнага дзяржаўнага архіва прускай культурнай спадчыны прадстаўлена справаздача аб паездцы прадстаўнікоў Сельскагаспадарчага аб’яднання Германіі ў занятыя тэрыторыі Обер Ост (20–31 ліпеня 1916 г.). Дакумент утрымлівае статыстычныя дадзеныя, да прыкладу параўнаўчыя табліцы па колькасці коней, буйной хатняй жывёлы ў ваенных акругах Обер Ост на стан 1897 і 1916 гг. [20]. Шэраг справаздач эканамічнага аддзела Обер Ост захоўвае справа «Кіраванне варожай тэрыторыяй праціўніка». Сярод іх варта адзначыць справаздачы ад 8 лістапада 1915 г. і 21 студзеня 1916 г. аб выкарыстанні гаспадарчых зямель, якія накіроўваліся ў ваеннае міністэрства. У іх падавалася інфармацыя аб аб’ёмах рэквізіцый ураджаю восенню 1915 г., падатках на зямлю, кошце на зерне і бульбу [21]. Для павышэння эфектыўнасці выкарыстання зямель з Германіі пастаўлялася сельскагаспадарчая тэхніка. Аб гэтым сведчыць даклад у Міністэрства сельскай гаспадаркі ад 22 мая 1916 г., у якім прыведзена колькасць машын, дастаўленых на тэрыторыю Обер Ост, у армію Буг, армейскую групу Войрша за перыяд з 1 студзеня да 1 мая 1916 г. [22].

У фондзе «Імперскае міністэрства эканомікі» Федэральнага архіва справы часу Першай сусветнай вайны выдзелены ў асобную групу «Эканамічныя адносіны на занятых тэрыторыях». Там выяўлены дакументы па грашовым звароце на занятых тэрыторыях, курсах валют [23].

Асаблівую цікавасць для беларускіх даследчыкаў уяўляюць дакументы і справаздачы нямецкіх ваенных частак, якія вялі баявыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі. Спынімся на фондах Генеральнага федэральнага архіва Карлсруэ, дзе захавалася дакументацыя 14-га Бадэнскага армейскага корпуса, штаб-кватэра якога знаходзілася ў Карлсруэ. Так, фонд 55-га рэзервовага палка палявой артылерыі ўтрымлівае дзённыя справаздачы з апісаннем баёў за Гродна 27 жніўня – 9 верасня 1915 г. [24].

У фондзе 438-га пяхотнага палка захоўваюцца справаздачы аб наступе ў 1918 г. на ўсход ад Дняпра ў кірунку Рэчыца – Гомель, армейскія заканадаўчыя лісткі 35-й рэзервовай дывізіі, распараджэнні нямецкай камендатуры Гомеля, схемы чыгуначных шляхоў рэгіёна і схемы падзелу юрысдыкцыі батальёнаў палка [25].

Фонд «Бадэнскія добраахвотныя фарміраванні і апалчэнні» ўтрымлівае дакументы камендатур гарадоў Гродна, Коўна, Мітавы за 1918 г. У шэрагу спраў (№ 202, 246, 358, 362) сабрана падборка дзённых загадаў для Гродна (*Tages-Befehle Brigade Grodno*) за перыяд май – ліпень 1919 г., у тым ліку ўлічаны шмат армейскіх дзённых загадаў [26].

Да **арганізацыйна-распарадчай дакументацыі** адносяцца дакументы, якія вызначалі структуру аддзелаў нямецкай адміністрацыі, задачы і формы дзейнасці, абавязкі і функцыі. «Ліст рангаў ваеннай адміністрацыі Обер Ост» [27], «Падзел і спіс імёнаў ваеннага ўпраўлення Обер Ост» [28], «Арганізацыйная структура аддзелаў адміністрацыі пры штабе Обер Ост» [29] утрымліваюць інфармацыю аб аддзелах і секцыях галоўнага ўпраўлення, адміністрацыйным падзеле ваенных акруг Курляндыя, Літва, Вільня – Сувалкі, Гродна і Беласток, структуры адміністрацыі на ўзроўні акругі і павета.

Сярод **інфармацыйна-даведачных матэрыялаў** вылучаюцца матэрыялы, што мелі на мэце апавяшчэнне мясцовага насельніцтва акупаваных тэрыторый аб прынятых рашэннях нямецкіх улад: афішы, аб’явы, плакаты, бюлетэні. У Галоўным дзяржаўным архіве Штутгарта ў фондзе «Калекцыя насценных аб’яў» захоўваецца збор нямецкіх распараджэнняў і аб’яў, якія расклейваліся ў гарадах і вёсках акупацыйнымі ўладамі Обер Ост [30]. Выяўлены аб’явы адносна ўстанаўлення падаткаў і кошту на розныя віды прадуктаў, аб арганізацыі прымусовых прац, аб выдачы дазволаў на перамяшчэнне і выкарыстанне розных відаў транспарту, плацяжах і квітанцыі, якія дапамаглі прасачыць рэалізацыю заканадаўчых мерапрыемстваў. Сярод іх унікальнымі з’яўляюцца абвесткі каменданта Пінска маёра Ліндэмана аб занянцці горада і ўстанаўленні нямецкай улады [31].

У фондах нямецкіх архіваў даволі шырока прадстаўлена **перапіска**. Акупацыйная зона Обер Ост мела свае ваенны і адміністрацыйны штабы, у сувязі з чым сфарміравалася разгалінаваная структура дакументазвароту не толькі ўнутры ваеннай адзінкі на ўзроўні адміністрацыі паветаў і ўпраўленняў, паміж ваенным кіраўніцтвам на Усходзе і ўладамі Германскай імперыі, афіцыйным Берлінам, Варшаўскім генерал-губернатарствам, але і з палітычнымі і грамадскімі групоўкамі. Так, у фондзе «Галоўная штаб-кватэра Міністэрства замежных спраў Германскай імперыі» Палітычнага архіва МЗС Германіі выяўлены дакументы аб планах аб’яднання ваенных акруг зоны Обер Ост у адну дзяржаву [32].

Для беларускіх гісторыкаў важнае значэнне мае перапіска нямецкай адміністрацыі і беларускіх дзеячаў па нацыянальным пытанні ў 1917–1918 гг. Значнымі знаходкамі з’яўляецца карэспандэнцыя беларусаў з нямецкімі цэнтральнымі ўладамі, звароты да канцлера Т. фон Бэтман-Гольвега ў сакавіку – маі 1917 г. Да прыкладу, выяўлены калектыўны ліст А. Луцкевіча, В. Ластоўскага, Д. Сямашкі, Я. Салаўя, І. Луцкевіча да канцлера Т. фон Бэтман-Гольвега аб гістарычным значэнні Беластока для беларусаў і неабходнасці яго ўключэння ў склад будучай беларускай дзяржавы [33]. Заўважым, што ў гэтым жа архіве захоўваецца група фондаў «Кангрэс нацый у Лазане» і «Ліга іншаземных народаў Расіі» [34], дзе ўтрымліваюцца крыніцы да гісторыі беларускага нацыянальнага руху ў гады вайны.

Акрамя дакументаў грамадскіх дзеячаў, у Генеральным федэральным архіве Карлсруэ ў фондзе «Бадэнскае сястрынства» была апрацавана прыватная перапіска, сярод якой быў выяўлены ўнікальны дакумент – ліст прэзідэнта Бадэнскага жаночага таварыства Чырвонага Крыжа Ганны Лаўтэр, датаваны красавіком 1916 г., з апісаннямі ваеннага лазарэта ў г. Бярозе [35].

**Дакументы асабістага паходжання** падзяляюцца на дзве групы: 1) публіцыстычныя творы; 2) дзённікі і запіскі, справаздачы падарожнікаў. Выяўленыя публіцыстычныя крыніцы прадстаўлены мемарандумамі, зваротамі і прамовамі. Палітыка Германіі на Усходзе выклікала вялікую хвалю абмеркаванняў у грамадска-палітычных колах краіны ўжо ў першыя тыдні вайны. У аснову была пакладзена праца нямецкага ідэолага Ф. Наўмана «Сярэдзінная Еўропа». Дзеячы нямецкай інтэлектуальнай эліты ў прамовах і артыкулах разглядалі шырокі спектр пытанняў: мэты і планы ўсходняй палітыкі Германіі, будучае занятых тэрыторый, нацыянальную палітыку і эканамічныя мерапрыемствы на занятых тэрыторыях [36].

У фондзе «Расія» Палітычнага архіва МЗС Германіі была выяўлена праца штатнага перакладчыка Галоўнага ўпраўлення ў Коўне ландштурмана Сесіміла аб гісторыі, этнічных і культурных асаблівасцях беларусаў, якая была падрыхтавана на аснове твораў Я. Карскага. Гэты даклад, напісаны ў лістападзе 1915 г. – лютым 1916 г., характарызуе ўяўленні нямецкага акупацыйнага кіраўніцтва пра беларусаў. Да прыкладу, беларуская мова апісвалася ў гучанні бліжэйшай да рускай, чым польскай, веравызнанне для 6 млн беларусаў вызначалася праваслаўным, для 2 млн – каталіцкім. Там жа падаюцца звесткі пра колькасць насельніцтва, палітычныя адносіны, школьніцтва [37]. Акрамя таго, у гэтым фондзе захоўваецца так званы мемарандум А. Луцкевіча да канцлера Германіі аб беларусах і будучай беларускай дзяржаве [38].

У асобую катэгорыю крыніц неабходна выдзеліць дзённікі і запіскі, справаздачы падарожнікаў. Да гэтай катэгорыі можна аднесці справаздачы нямецкіх грамадскіх дзеячаў, журналістаў, вучоных,

этнографаў, якія мелі на мэце збіранне і папулярызацыю ў Германіі інфармацыі аб занятых тэрыторыях на Усходзе. Пры падтрымцы і са згоды нямецкай адміністрацыі Обер Ост яны здзяйснялі падарожжы праз гарады занятых тэрыторый і давалі сваю ацэнку таму, што бачылі: прыродна-геаграфічным умовам, захаванасці і забеспячэнню гарадоў, колькасці людзей і г. д. У Палітычным архіве МЗС Германіі ў фондзе «Упраўленне занятымі тэрыторыямі Расіі» выяўлены рукапіс П. М. Баўмгартэна, які быў сведкам нямецкага наступу ў жніўні – верасні 1915 г. [39]. Дзяржаўная бібліятэка ў Берліне таксама захоўвае некалькі крыніц такога тыпу. Так Л. Вайхерт здзейсніў сваю паездку ў снежні 1915 г. па гарадах Хельм – Брэст-Літоўск – Беласток – Варшава – Вільня – Лібава і апісаў яе ў сваіх нататках «Ваеннае пажарожжа аднаго весніка міру на Усходні фронт» [40]. Ё. А. М'ёэн сваё падарожжа на Усходні фронт апісвае з пункту гледжання культурнай адсталасці славян і першаснасці немцаў [41].

Унікальнай крыніцай для беларускай крыніцазнаўчай базы перыяду Першай сусветнай вайны з'яўляецца праца В. Фельдмана «Разам з войскам прынца Леапольда Баварскага ў глыб Беларусі» [42], якая была падрыхтавана ў ліпені – верасні 1915 г. спецыяльна для газеты «Берлінскі штодзённік» («Berliner Tageblatt»). Аўтар знаходзіўся ў самым эпіцэнтры падзей, суправаджаючы групу армій Леапольда Баварскага. Па шляху праз Варшаву, Нова-Георгіеўск В. Фельдман сваімі вачамі бачыць заняцце заходніх зямель Беларусі: апісвае свае ўражанні ад вёсак Гродзеншчыны і Белавежскай пушчы.

Нягледзячы на разуменне важнасці запісак падарожнікаў як гістарычнай крыніцы, пры іх аналізе неабходна мець на ўвазе мэту падарожжа, тыя задачы, якія ставіліся перад аўтарам, і крытычна ставіцца да пададзенай там інфармацыі.

**Перыядычны друк.** Выданні, якія захоўваюцца ў Дзяржаўнай бібліятэцы прускай культурнай спадчыны і Бібліятэцы Берлінскага ўніверсітэта імя Гумбальта, з'яўляюцца ўнікальнымі крыніцамі па гісторыі Беларусі перыяду Першай сусветнай вайны і займаюць істотнае месца ў асвятленні сацыяльна-эканамічных і грамадскіх працэсаў. У нямецкіх архівах сканцэнтраваны поўныя ці амаль поўныя камплекты газет, часопісаў, што з'яўляюцца бібліяграфічнай рэдкасцю для айчынных сховішчаў. Нумароў асобных выданняў не выяўлена ў Беларусі нават у адзінкавым экзэмпляры.

Нямецкамоўную перыёдыку можна ўмоўна падзяліць па геаграфічнай прымеце: выданні, якія выходзілі ў Германіі і ў асобных рубрыках асвятлялі сітуацыю на Усходзе, і газеты акупаваных тэрыторый. Больш інфармацыі рэгіянальнага характару ўтрымліваюць газеты, што з'яўляліся афіцыйнымі друкаванымі органамі адпаведных ваенных акруг Обер Ост: «Гродзенская газета» («Grodnoer Zeitung») [43], «Віленская газета» («Wilnaer Zeitung») [44], «Беластоцкая газета» («Białystoker Zeitung») [45]. Асобна вылучаюцца органы нямецкай адміністрацыі Варшаўскага генерал-губернатарства: «Нямецкая лодзенская газета» («Deutsche Lodzer Zeitung») [46] і «Нямецкая варшаўская газета» («Deutsche Warschauer Zeitung») [47], якія мелі асобную рубрыку «З Літвы і Курляндыі». Свае газеты мелі Пінск – «Пінская газета» («Pinsker Zeitung») [48], Баранавічы – «Баранавіцкая ваенная газета» («Kriegszeitung von Baranowitschi») [49], Наваградак – «Наваградская газета» («Nowogrodeker Kriegszeitung») [50].

Асобна стаяць газеты нямецкіх армій, якія дыслацыраваліся на Усходзе: «Газета 10-й арміі» («Zeitung der X. Armee») [51], «Варта на Усходзе: Палявая газета армейскай групы Шэфер» («Die Wacht im Osten: Feldzeitung der Armee-Abteilung Scheffer») [52]. Акрамя таго, для даследавання беларускай тэматыкі перыяду вайны цікавымі з'яўляюцца матэрыялы з нямецкіх газет, сярод якіх можна згадаць «Берлінскі штодзённік» («Berliner Tagesblatt»), «Кёльнскую газету» («Kölnischer Zeitung»), «Паўночна-нямецкую агульную газету» («Norddeutschen Allgemeinen Zeitung») і інш.

Асноўнымі задачамі газет былі своечасовае данясенне да насельніцтва адміністрацыйных распараджэнняў і асвятленне ўсіх мерапрыемстваў акупацыйных улад. На старонках выданняў размяшчаліся паведамленні аб выдачы прадуктовых картак і продажы прадуктаў харчавання, зборы падаткаў, увядзенні пашпартоў, наладжванні народных кухань і г. д. Кожная газета мела раздзел кшталту «Мясцовыя навіны», які з'яўляецца ўнікальнай крыніцай па даследаванні эканамічнага, грамадска-палітычнага, культурнага жыцця насельніцтва пад акупацыяй. На старонках газет змяшчаліся артыкулы, паведамленні, нават апавяданні, вершы і замалёўкі гарадоў і вёсак, рынкавых плошчаў і людзей. Дзякуючы намаганням беларускіх дзеячаў з'яўляліся пераклады з беларускай літаратуры і паэзіі, фальклору. Ваенныя газеты выдаваліся па-нямецку з укладышам на мясцовай мове – польскай, літоўскай ці ідыш. Усе перыядычныя выданні, якія друкаваліся на тэрыторыі Обер Ост, Варшаўскага генерал-губернатарства, а таксама ў Германіі, праходзілі ваенную і палітычную цэнзуру.

Асобнае месца сярод перыядычных выданняў займае «Гоман». Газета выдавалася пад кантролем нямецкіх улад і была да 1918 г. адзінай беларускамоўнай газетай на тэрыторыі Обер Ост. Яна пачала выходзіць у Вільні 15 (28) лютага 1916 г. пад рэдакцыяй В. Ластоўскага, а ад 24 красавіка 1917 г. – Я. Салаўя. Спачатку газета друкавалася толькі лацінкай адзін раз на тыдзень, а з 1 верасня 1916 г. – лацінскім і кірылічным шрыфтамі двойчы на тыдзень. Апошні, вядомы нумар газеты выйшаў 9 жніўня 1918 г. [53].

Сярод польскамоўных выданняў для даследчыкаў беларускай гісторыі цікавымі з'яўляюцца тыя, што асвятлялі падзеі на ўсходзе. Гэта газеты «Польская гадзіна» («Godzina Polski») [54], што выходзіла ў Лодзі, «Пагоня» («Pogoń») – у Магілёве [55], «Новы літоўскі кур'ер» («Nowy Kurjer Litewski») –

у Мінску [56]. У рубрыках гэтых газет кшталту «З Беластоку», «З Літвы», «З Гродна» апісвалася жыццё пад акупацыяй: аб нямецкай навуковай экспедыцыі ў Белавежскую пушчу з мэтай яе вывучэння, аб праблемах перамяшчэння насельніцтва на акупаваных тэрыторыях, аб нацыянальным складзе насельніцтва і г. д. Часопісы «Літва» («Litwa») [57], «Палітычны агляд» («Przegląd Polityczny») [58], «Польскія ведамасці» («Wiadomości Polskie») [59] утрымліваюць артыкулы аб палітычных праграмах немцаў на Усходзе, месцы Літвы (у тым ліку беларускіх тэрыторый) у стратэгічным планаванні вышэйшага камандавання.

**Графічныя матэрыялы** ўключаюць у сябе карты, схемы, фотаздымкі аб'ектаў, звязаныя з гісторыяй Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі. Так, у фондзе «Ваенныя карты» Генеральнага федэральнага архіва Карлсруэ выяўлена найбольш поўная серыя ваенна-геаграфічных карт «Вайна супраць Расіі» пад рэдакцыяй В. Паашэ за перыяд чэрвень 1915 г. – сярэдзіна красавіка 1918 г. (у колькасці 27 адзінак). Адна карта з гэтай серыі выяўлена ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве [60]. Дзякуючы картам можна прасачыць змены лініі Усходняга фронту на працягу амаль трох гадоў вайны [61].

Такім чынам, праведзены аналіз крыніц дазваляе сцвярджаць, што вывучэнне палітыкі нямецкай акупацыйнай улады на тэрыторыі Беларусі ў гады Першай сусветнай вайны забяспечана шырокім спектрам гістарычных крыніц. Значная частка дакументаў захоўваецца па-за межамі Беларусі, у тым ліку ў архівах і бібліятэках Германіі. Гэтыя крыніцы дазваляюць усебакова разгледзець многія аспекты нямецкай акупацыі Беларусі. Комплекснае выкарыстанне розных відаў крыніц, што знаходзяцца на захаванні ў беларускіх і замежных архівах, дазволіць прааналізаваць працэс фарміравання нямецкай палітыкі на занятых тэрыторыях, вызначыць месца і ролю беларускіх тэрыторый ва ўсходняй палітыцы Германіі, вылучыць асаблівасці этапаў арганізацыі і дзейнасці выканаўчай улады нямецкага кіраўніцтва на Усходзе, прааналізаваць ваенна-палітычныя і эканамічныя аспекты нямецкай акупацыі, прававы стан розных сацыяльных груп, а таксама дапоўніць звесткі па ваеннай дэмаграфіі гарадоў.

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС


1. Беларусь у палітыцы суседніх і заходніх дзяржаў (1914–1991) : зб. дак. і матэрыялаў : у 4 т. Т. 1. 1 жн. 1914 г. – 18 сак. 1921 г., ч. 1. 1 жн. 1914 г. – 31 снеж. 1919 г. / склад. А. Ф. Вялікі [і інш.]. Мінск, 2008 ; Беларусь в годы Первой мировой войны (1914–1918 гг.) : сб. док. / сост.: В. В. Врублевский [и др.]. Минск, 2014.

2. *Волкава В. В.* Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел нямецкай акупацыйнай зоны Обер Ост (1915–1918) // Працы гістарычнага факультэта БДУ : навук. зб. Мінск, 2012. Вып. 7. С. 28–34.

3. Staatsbibliothek zu Berlin Preußischer Kulturbesitz (SBB). Befehls- und Verordnungsblatt des Oberbefehlshabers Ost : in 3 Bd. Hauptquartier (Kowno – Białystok), 1915–1918. Bd. 1–3.

4. SSB. Verordnungsblatt der Deutschen Verwaltung für Litauen. 1915. № 1 ; 1916. № 15.

5. SSB. Verordnungsblatt der Verwaltung Suwalki. 1915. № 1 ; 1916. № 12.

6. SSB. Verordnungsblatt der Deutschen Verwaltung für Kurland. 1915. № 1–28.

7. SSB. Verordnungsblatt für das Kaiserliche Gouvernement und die deutsche Verwaltung Wilna. 1915. № 1–4 ; 1916. № 1–16.

8. SSB. I. Bericht über die Einrichtung und Entwicklung der Verwaltung der Etappen-Inspektion XII. bis zum 1. Januar 1916. Grodno, 1916 ; II. Bericht über die Verwaltung der Etappen-Inspektion XII. vom 1. Januar 1916 bis 31. März 1916. Grodno, 1916 ; III. Bericht (Ergänzungsbericht) über die Deutsche Verwaltung Grodno vom 1. April 1916 bis 30. Juni 1916. Grodno, 1916 ; Geheimes Staatsarchiv Preußischer Kulturbesitz (GStA PK). I. HA. Rep. 87 B Ministerium für Landwirtschaft, Domänen und Forsten. № 16357 ; IV. Verwaltungsbericht der Deutschen Verwaltung Grodno vom 1. Juli 1916 bis 30. September 1916. Białystok, 1916 ; GStA PK. XX. HA. Historisches Staatsarchiv Königsberg. Rep. 110 A. № 77. Geschäftsverteilungsplan für die Militärkreisämter Grodno-Stadt und Land. Grodno, 3. April 1918.

9. Bundesarchiv in Berlin-Lichtenfende (BA-BL). R 3101. Reichswirtschaftsministerium. № 890. Verwaltungsbericht der Verwaltung bei der Etappen-Inspektion IX. bis zum 1. Januar 1916. Białystok, 1916 ; II. Verwaltungsbericht der Verwaltung bei der Etappen-Inspektion IX. April 1916. Białystok, 1916 ; III. Verwaltungsbericht der Verwaltung bei der Etappen-Inspektion IX. Juli 1916. Białystok, 1916 ; GStA PK. I. HA. Rep. 87 B Ministerium für Landwirtschaft, Domänen und Forsten. № 16358. IV. Verwaltungsbericht der Deutschen Verwaltung Białystok. Juli – September 1916. Białystok, 1916.

10. GStA PK. I. HA. Rep. 89 Geh. Zivilkabinett, jüngere Periode. № 32465. Verwaltungsbericht der Militärverwaltung Białystok – Grodno für die Zeit vom 1. Oktober 1916 bis 1. April 1917. Białystok, 1917 ; Verwaltungsbericht der Militärverwaltung Białystok – Grodno für die Zeit 1. April bis 30. September 1917. Białystok, 1917.

11. GStA PK. I. HA. Rep. 89 Geh. Zivilkabinett, jüngere Periode. № 32465. Bericht über die Einrichtung und Fortentwickelung der Verwaltung Wilna für die Zeit bis Ende 1915.

12. GStA PK. I. HA. Rep. 87 B Ministerium für Landwirtschaft, Domänen und Forsten. № 16358. Verwaltungsbericht der Militärverwaltung Litauen für die Zeit vom 1. Oktober 1916 bis 31. März 1917. Kowno, 1917 ; GStA PK. I. HA. Rep. 87 B Ministerium für Landwirtschaft, Domänen und Forsten. № 16359. Verwaltungsbricht der Militärverwaltung Litauen für die Zeit vom 1. April bis 30. September 1917 ; GStA PK. I. HA. Rep. 84 A Justizministerium. 9 Frühere Wehrmacht und auswärtige Angelegenheiten. № 6212. Verwaltungsbericht der Militärverwaltung Litauen, Bezirk Süd in Białystok für die Zeit vom 1. April 1917 bis September 1918.

13. SSB. Tätigkeitbericht der Etappen-Inspektion XII. Oktober – Dezember 1916. Białystok, 1916 ; Tätigkeitbericht der Etappen-Inspektion XII. Januar – Märtz 1917. Białystok, 1917 ; Tätigkeitbericht der Etappen-Inspektion XII. April – Juni 1917. Białystok, 1917.

14. GStA PK. I. HA. Rep. 84 A Justizministerium. 9 Frühere Wehrmacht und auswärtige Angelegenheiten. № 6211. I. Verwaltungsbericht der Etappen-Inspektion Bug vom 1. Oktober 1916 bis 31. März 1917. Warschau, 1917 ; GStA PK. I. HA. Rep. 84 A Justizministerium. 9 Frühere Wehrmacht und auswärtige Angelegenheiten. № 6212. II. Verwaltungsbericht der Etappen-Inspektion Bug vom 1. April bis 30. September 1917. Warschau, 1917 ; GStA PK. I. HA. Rep. 84 A Justizministerium. 9 Frühere Wehrmacht und auswärtige Angelegenheiten. № 6213. III. Verwaltungsbericht der Etappen-Inspektion Bug vom 1. Oktober 1917 bis 31. März 1918. Warschau, 1918.

15. GStA PK. I. HA. Rep. 84 A Justizministerium. 9 Frühere Wehrmacht und auswärtige Angelegenheiten. № 6210. I. Verwaltungsbericht der Etappen-Inspektion der Armee-Abteilung Woyrsch. 25. September – 31. Oktober 1916. Warschau, 1916 ; GStA PK. I. HA. Rep. 84 A Justizministerium. 9 Frühere Wehrmacht und auswärtige Angelegenheiten. № 6211. II. Verwaltungsbericht der Etappen-Inspektion der Armee-Abteilung Woyrsch. 1. November 1916 – 31. März 1917. Warschau, 1917 ; GStA PK. I. HA. Rep. 84 A Justizministerium. 9 Frühere

Wehrmacht und auswärtige Angelegenheiten. № 6211 ; BA-BL, R 3101 Reichswirtschaftsministerium. № 890. III. Verwaltungsbericht der Etappen-Inspektion der Armee-Abteilung Woyrsch. 1. April bis 30. September 1917. Warschau, 1917.
16. GStA PK. I. HA. Rep. 77 Ministerium des Innern. Tit. 871. № 121. S. 258–265. Die nationalen Verhältnisse und die deutsche Politik im Ob. Ost-Gebiet unter besonderer Berücksichtigung der litauischen Frage. Anlage zu Ob. Ost № 29 geh. 26.3.17.
17. GStA PK. I. HA. Rep. 89 Geh. Zivilkabinett, jüngere Periode. № 32465. S. 20–46. Bericht über die Zählung der Auslandsdeutschen im Verwaltungsgebiet Ob. Ost. Verwaltung Abt. V. № 4352.
18. PA AA. Verwaltung besetzter Gebiete in Russland. R 21342. S. 36–70. Bevölkerungs-Statistik Ob. Ost. Kriegszählung. Oberquartiermeister. Abt. V. № 1035.
19. PA AA. Die Zukunft der besetzter Gebiete des übrigen Russlands. R 21691. S. 127–139.
20. GStA PK. I. HA. Rep. 87 B Ministerium für Landwirtschaft, Domänen und Forsten. № 16353. Bericht über die Reise von Vertretern des Deutschen Landwirtschaftsrats in die besetzten Gebiete von Ober-Ost vom 20.–31. Juli 1916.
21. GStA PK. I. HA. Rep. 87 B Ministerium für Landwirtschaft, Domänen und Forsten. № 16366. Die Bewirtschaftung der besetzten feindlichen Gebiete.
22. GStA PK. I. HA. Rep. 87 B Ministerium für Landwirtschaft, Domänen und Forsten. № 16366. Bericht der landwirtschaftlichen Auskunftstelle für Kriegsschaft im Landwirtschaftsministerium zu Berlin seit ihrem Bestehen (Januar 1916) bis 1. Mai 1916.
23. BA-BL. R 3101 Reichswirtschaftsministerium. № 897. Bankwesen in den besetzten Gebieten.
24. Landesarchiv Baden-Württemberg, Abt. Generallandesarchiv Karlsruhe (LABW, Abt. GLAK). 456 F. 93. Reserve-Feldartillerie-Regiment 55.
25. LABW, Abt. GLAK. 456 F. 45. Infanterie-Regiment 438.
26. LABW, Abt. GLAK. 456 F. 134/135 Badische Freiwilligen- und Reichswehrformationen.
27. SSB. Rangliste der Verwaltung des Oberbefehlshabers Ost (Bearb. von Abt. V der Verwaltung Ob. Ost). Nur zum Dienstgebrauch. Mitte Juli 1916.
28. SSB. Gliederung und Namensliste der militärischen Landesverwaltung des Oberbefehlshabers Ost. Nur zum Dienstgebrauch. Juli 1917.
29. GStA PK. I. HA. Rep. 89 Geh. Zivilkabinett, jüngere Periode. № 32466. Geschäftsverteilungsplan der Verwaltungsabteilungen beim Stabe des Oberbefehlshabers Ost (Oberquartiermeister). Nur für den Dienstgebrauch. 15. August 1917. Ob. Ost (O. Qu.). Abt. V. № 2099.
30. Landesarchiv Baden-Württemberg, Abt. Hauptstaatsarchiv Stuttgart (LABW, Abt. HSAS). F. J 151. Sammlung von Maueranschlägen.
31. LABW, Abt. HSAS. F. J 151. № 2127. Bekanntmachung / hrgb. Major und Kommandant der Stadt Pinsk Lindemann. Ortskommandat, Pinsk 17/4.9.1915.
32. Politisches Archiv – Auswärtiges Amt (PA AA). Gr. Hauptquartier. R 22276. Akten des Rats. 1917–1918. Russland.
33. PA AA. Gr. Hauptquartier. Allgemeine Lage. R 22277.
34. PA AA. R 21820-R 21831. Nationalitäten-Kongress in Lausanne und Liga der Fremdvölker.
35. LABW, Abt. GLAK. 69. Badische Schwesternschaft. 5. Badischer Frauenverein vom Roten Kreuz. Druckschriften. 5.5. Schwesternbriefe. № 79. S. 45–47. Schwesternbriefe der Präsidentin der Abteilung III des Badischen Frauenvereins vom Roten Kreuz, Anna Lauter.
36. GStA PK. I. HA. Rep. 90 A Staatsministerium, jüngere Registratur. № 2697. Broedrich-Kurmahlen, S. Das neue Ostland. Als Handschrift gedrückt. Charlottenburg, 1916. Graf zu Eulenburg-Prassen. Gedanken über die politische und wirtschaftliche Zukunf Kurlands und Litauens. Als Handschrift gedrückt. Wilna, Juni 1917. GStA PK. I. HA. Rep. 84 A Justizministerium. № 50919. Rohrbach, P. Russisches. Berlin, den 23. Juni 1915. Nicht für die Presse.
37. PA AA. Russland. R 11108. Die Bestrebungen der Ukrainophilen und die kleinrussische (ruthenische) Frage. Bd. 4 (01.01.1907–03.1920).
38. PA AA. R 21695. Die Zukunft der besetzten Gebiete des übrigen Russlands. S. 126–141. Denkschrift des Vertrauensmannes weißruthenischer völkischer Organisationen Anton Lutzkiewitsch. Abgesandt an Geheimrat Riezler zur Weitergabe an den Herrn Reichskanzler am 17. April 1917.
39. PA AA. Verwaltung besetzter Gebiete in Russland. R 21329. S. 43–136. Bericht über eine Reise in Kurland, Litauen und Polen. 3. September bis 3. Oktober 1915 ausgeführt von Paul Maria Baumgarten.
40. *Weichert L.* Kriegsfahrten eines Friedensboten an die Ostfront. Hamburg, 1916.
41. *Mjöen J. A.* Germanen oder Slaven? Die Mongolisierung Europas. Eindrücke eines Neutralen von einer Reise an die Ostfront und zu Hindenburg. Berlin, 1917.
42. *Feldmann W.* Mit der Heeresgruppe des Prinzen Leopold von Bayern nach Weißrussland hinein. Kriegsberichte. München, 1916.
43. Grodnoer Zeitung. Grodno, 1915–1918 ; *Волкава В. В.* Газета «Grodnoer Zeitung» як крыніца па гісторыі нямецкай акупацыі Беларусі // Гістарычная ўрбаністыка: асновы метадалогіі і крыніцазнаўчая база : зб. навук. арт. Гродна, 2011. С. 336–343.
44. Wilnaer Zeitung. Wilna, 1916–1918.
45. Białystoker Zeitung. Białystok, 1916–1919 ; *Волкава В. В.* Палітыка нямецкай адміністрацыі ў галіне прэсы на тэрыторыі Обер Ост у гады Першай сусветнай вайны (на прыкладзе «Białystoker Zeitung») // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2013. № 39. С. 213–220.
46. Deutsche Lodzer Zeitung. Łódź, 1915–1918.
47. Deutsche Warschauer Zeitung. Warschau, 1915–1918.
48. Pinsker Zeitung. Pinsk, 1915–1917.
49. Kriegszeitung von Baranowitschi. Baranowitschi, 1916–1918.
50. Nowogrodeker Kriegszeitung : Unterhaltungsblatt für unsere Soldaten. Nowogrodek, 1916.
51. Zeitung der X. Armee. Wilna, 1915–1918.
52. Die Wacht im Osten : Feldzeitung der Armee-Abteilung Scheffer. Danzig, 1915–1918.
53. Homan. Wilna, 1916–1918.
54. Godzina Polski. Warszawa ; Łódź, 1915–1918.
55. Pogoń. Minsk,1915.
56. Nowy Kurjer Litewski. Minsk, 1915–1917.
57. Litwa. Wilna, 1917–1918.
58. Przegląd Polityczny. Lozanna, 1916.
59. Wiadomości Polskie. Cieszyn, 1914–1919.
60. Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie. F. 478. Dz. 29. Paasches Frontenkarte 12. Krieg gegen Russlands.
61. LABW, Abt. GLAK. F. H-BS Kriegs – und Militärkarten. XI141. № 2–10, 12–17, 19–21, 23, 25.

Паступіў у рэдакцыю 05.02.2015.

***Вольга Віктараўна Волкава*** – аспірантка кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу. Навуковы кіраўнік – доктар гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу гістарычнага факультэта А. Г. Каханоўскі.



